© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022



*Від на горад Навагрудак.*

ЛЁЎКА МІРАЧЫЦКІ

# Сцежкамі вялікага паэта

*Тут жыў Міцкевіч,*
*Тут яшчэ гудуць*
*І веюць ветры тыя,*
*што калісьці*
*Па свеце неслі хмары*
*яго дум,*
*Пад вокнамі яму шумелі*
*лісцем.*
*Максім Танк*

Пачынаем падарожжа...

Перад намі лясісты, гарысты і азёрны край — Новагрудчына. Край багаты легендамі і паданнямі. Часта яшчэ яго называюць «Беларускай Швейцарыяй». Магчыма народная аналогія ўзнікла таму, што вялікі зямляк гэтага краю Адам Міцкевіч, знаходзячыся ў далёкай Лазане, любіў параўноўваць швейцарскія пейзажы з Новагрудчынай, аддаючы ёй перавагу. Вялікі паэт уславіў Новагрудскі край ва ўсіх сваіх баладах і паэмах — жамчужынах паэзіі, якія стварылі цэлую эпоху ў гісторыі польскай літаратуры.

Магчыма гэтыя моцныя ніці, якія звязвалі творчую дзейнасць паэтычнага генія Польшчы з нашай «Беларускай Швейцарыяй» і прывілі нам тую шчырасць пачуцця, пачуцця замілавання і адданасці, з якім мы адносімся да Аляксандра Пушкіна, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, так і да гэтага вялікага чалавека, чыё імя састаўляе гордасць усіх народаў свету, гордасць сусветнай культуры.

Паглядзіце!

Мы бачым горад. Ён раскінуўся на высокіх узгорках, на фоне блакітнага неба чотка выдзяляюцца руіны старога замка і стромкія вежы святынь. Новагрудак — старажытны славянскі горад, першая сталіца літоўскага княства. Каля сваіх сцен яна мужна адбівала атакі татарскіх полчышч і набегі закутых у жалеза крыжакаў.

Але не толькі бітвамі праславіў сябе Новагрудак. Ён вядомы ўсяму свету тым, што тут рос, вучыўся Адам Міцкевіч.

Заглянем зараз у Дом - музей паэта, які адноўлен на тым месцы, дзе калісьці стаяў дом бацькоў у акружэнні пірамідальных таполляў. Пры ўваходзе ў музей вісіць мармуровая дошка, на ёй высечан залатымі літарамі загад Навагрудскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта аб утварэнні ў Новагрудку Дома-музея Адама Міцкевіча. Унізе дата: «16 верасня 1920 года».



*Дом - музей Адама Міцкевіча.*

Гэта былі цяжкія дні. Ішла грамадзянская вайна. І вось тады, магчыма, што ў перапынку між баямі напісан гэты загад. «Совецкая ўлада, — гаворыцца ў загадзе, — якая з'яўляецца носьбітам культуры і святла, памятае аб тых, хто на гэтай ніве працаваў, і памяць аб іх, увекавечаную іх працамі, шануе і беражэ». Усім сэрцам ацэньваем гуманнасць маладой совецкай рэспублікі да памяці вялікіх людзей мінулага.

Усе рэчы, сабраныя тут у залах і пакоях музея, якія раскрываюць жыццёвы і творчы шлях паэта, яго неўміручую славу, з'яўляюцца падарункамі сапраўднай народнай павагі, любві да польскага генія.

На зварот Новагрудскай раённай камісіі па правядзенню юбілея — сто год з дня смерці — Адама Міцкевіча горача адгукнулася мясцовае насельніцтва. Ад школ, ад жыхароў з навакольных вёсак няспынным патокам паступалі ў музей кнігі, рэчы, звязаныя з памяццю стваральніка «Гражыны», «Дзядоў», «Пана Тадэуша». Тут і прысвечаныя паэту карціны і скульптуры беларускіх мастакоў: Пушкова, Крохалева, Шыбнёва, Глебава, Заспіцкага, Робермана і другіх.

На сцяне вісіць вялікі партрэт паэта работы італьянскага мастака Пальміро. Гэта падарунак мінчан. А вось бронзавы макет помніка Адаму Міцкевічу ў Парыжы, спраектаваны вядомым французскім скульптарам Эмілем-Антоні Бурдэле. Яго Новагрудчане выратавалі ў той час, калі гітлераўцы бамбардыравалі горад.

У наступным зале мы бачым мармуровую пліту з бронзавым бюстам паэта. Адам Міцкевіч прадстае перад намі з адкрытай галавой і адкрытай груддзю. Затым — яго неўміраючыя творы, вязанка палявых кветак і калоссяў збажыны. Усё гэта разам сімвалізуе чыстату дум і пачуццяў Адама Міцкевіча, яго цесную сувязь з жыццём народа. Гледзячы на гэты выдатны помнік, які ахвяравала да стагоддзя з дня нараджэння свайго бацькі Марыя Гарэцкая (дачка паэта), на памяць прыходзяць радкі Міцкевіча, калі герой паэмы «Дзяды» Конрад ўзносіцца ў надхмарныя высі, каб здабыць у бога частку яго магутнасці і зрабіць свет шчаслівым:

*Я люблю ўвесь народ!*
*...Звацъ мяне мільён,*
*за людзей мільёны*
*Цярпець катаванні*
*мушу.*

З Масквы і Ленінграда прыслалі сюды рэдкія выданні кніг, якія выйшлі пры жыцці паэта ў Пецербургу, Парыжы, Лейпцыгу.

Беражліва захоўваюцца тут уласныя рэчы паэта, яго акуляры ў залатой аправе, гадзіннік з віленскага пакоя, дзе ён пісаў паэму «Гражына», мэбля з маёнтка Туганавічы. У музеі многа кніг, фотакопіі рукапісаў, ілюстрацыі, карціны, якія прыслала Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы. Кожны, хто прыязджае ў Навагрудак, імкнецца ў першую чаргу наведаць Дом-музей паэта, азнаёміцца з рэліквіямі, што ўваскрашаюць памяць аб вялікім чалавеку, аб яго жыцці, творчай дзейнасці і змаганні за перадавыя ідэалы народаў свету.

А зараз мы выйдзем на плошчу імя Леніна.

Звілістымі гарыстымі вуліцамі ідзем далей... Мы наведаем блізкія сэрцу паэта мясціны, якія былі крыніцай яго творчага натхнення.

...Замкавая гара. Адсюль адкрываецца цудоўны краявід. У розных кірунках між палёў, сенажацей, бароў бягуць дарогі; у зелені садоў тонуць вёскі, а далей, каб не сінеючая смуга Налібацкай пушчы, мы ўбачылі-б быстрыя воды Нёмана.

Калісьці гэтыя далягляды вабілі да сябе ўражлівага хлопчыка, Адама Міцкевіча, а гара, пад якой нібыта пахаваны літоўскі князь Міндоўг, рэшткі крэпасных валоў, — хвалявалі яго сваёй таямнічасцю. У гэтых абставінах асабліва захаплялі фантастычныя апавяданні старога слугі Блажэя. Часта паэт прыходзіў сюды слухаць песні сялянскіх дзяўчат, песні беларускіх прастораў, у якіх быццам у люстры, паказана сельскае жыццё народа.

На ўсходнім схіле Замкавай гары бялее фарны касцёл раманскага стылю. Ён заснаваны ў XIV стагоддзі літоўскім князем Вітаўтам на месцы паганскай святыні Перкуна. Што-ж гэта была за святыня? Раслі тры велізарныя дубы. Да іх прыходзілі пакланяцца нашы прэдкі. У фарным касцёле ў 1422 годзе польскі кароль Уладзіслаў Ягайла браў шлюб з беларускай княгіняй Сонькай Гальшанскай. На адной з сцен гэтага храма - помніка сівай мінуўшчыны — высечаны на мармуры словы: «У сценах гэтага касцёла 22 лютага 1799 года ахрышчан Адам Міцкевіч».



*На здымку: на вяршыне «Кургана Міцкевіча» сядзяць: другі злева галоўны рэдактар «Нівы» Г. Валкавыцкі і трэці злева старшыня БГ-КТ — А. Давідзюк.*

А побач тут на малым замчышчы, дзе ён захапляўся дзіцячымі гульнямі, дзе зачароўваўся цудоўнай прыродай Новагрудка і яго аколіц, дзе палюбіў беларускія песні, легенды, паданні, дзе мужнела яго дараванне, — насыпан Адаму Міцкевічу вечны помнік — «Курган неўміручасці».

Перад ад'ездам з Навагрудка мы наведваем возера Літвінку (Літоўку). Яно недалёка ад горада ў маляўнічай даліне, дзе паводле паданняў смелая дачка літоўскага народа княжна Гражына атрымала перамогу над рыжакамі. Часта сюды прыязджаў Адам Міцкевіч са сваімі школьнымі, а пазней універсітэцкімі сябрамі — Янам Чачотам і Томашам Занам. Гэтыя мясціны апеты паэтам у паэме «Гражына».

Мы пасядзім тут і адчуем тую прыемнасць, якую дасць нам від на мініятурнае возера, на даліну Літвінкі, а затым ізноў у дарогу. Сёння наведаем Шчорсы.

Едзем Карэліцкім трактам.

Дарогай цяжка адарвацца ад маляўнічых відаў, калі яны так хутка праносяцца перад табой.

А вось і Шчорсы...

Людзі тут працавітыя, гасцінныя. Яны ахвотна сустракаюць гасцей і гатовы падзяліцца сваімі поспехамі, навінамі.

Тут, у калгасе імя Варашылава, жыццё кіпіць. Яно з кожным днём нараджае новыя планы.

Насустрач нам выйдуць дзеці калгаснікаў — вучні Шчорсаўскай сярэдняй школы. З імі пасябруем і пойдзем у стары, цяністы парк.

На поўночнай ускраіне расце ў тры абхваты дуб. Мясцовыя жыхары называюць яго «дубам Міцкевіча». Тут ва ўсім адчуваецца клапатлівасць гаспадара. Старое разгалістае дрэва падтрымліваецца ланцугамі, абнесена двайной агарожай жалезнай і драўлянай.

— Мой тата акоўваў яго жалезам, — горда скажа вам вясковы хлопчык. — Каб ён не баяўся буры.

— А мы тут садзілі кветкі, — скажуць дзяўчынкі.

Усе ад малога да дарослага шчорсаўца шануюць дуб, як памяць аб вялікім земляку.

Гэта пад ім Адам Міцкевіч адпачываў пасля працы ў бібліятэцы графа Хрэбтовіча, любаваўся вялікай карцінай Нёмана, аддаваўся разважанням, пісаў вершы. Тут ён напісаў санет «Да Нёмана» і ў яго ўзнік план напісаць паэму аб мінулым Літвы, «Гражыну».

*(Працяг будзе).*



© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

